www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

№ 2 (4151)

6 студзеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

УВАГА!

## Да -32°С!

У Гідраметэацэнтры прагназуюць, што ўначы **з 7 на 8 студзеня** на большай частцы тэрыторыі краіны паветра ахалодзіцца да -25…-27°С, па паўночным захадзе пры праясненнях – да -28…-32°С.

У пятніцу **6 студзеня** тэмпература паветра ўначы будзе -19…-24°С, па Віцебскай вобласці прагназуецца -25…-26°С, днём -16…-22°С. Па паўднёва-ўсходняй частцы краіны тэмпература на працягу сутак складзе -13…-18°С.

ВІНШАВАННЕ!



## Хрысціянскія каштоўнасці – верны арыенцір у жыцці чалавека

***(З Паслання да Раства Хрыстовага Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі)***

Сардэчна, са светлай радасцю вітаю вас і віншую з найвялікшай выратавальнай падзеяй: прышэсцем у свет Сонца Праўды – Хрыста, Бога нашага.

Гасподзь завяшчаў нам любіць адзін аднаго, захоўваць адзінства царкоўнае, несці людзям мір Хрыстовы і дабро, быць лагоднымі і цярплівымі, быць руплівымі ў малітве і ў служэнні слабым і абяздоленым. «*Па тым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі любоў будзеце мець паміж сабою*» (Ін. 13, 35), – кажа нам Гасподзь і Збаўца наш Ісус Хрыстос. Далучаючыся да гэтай уседасканалай Божай любові, мы здабываем непераможную зброю «*супраць злых духаў паднябесных*» (Эф. 6, 12), здабываем магчымасць паспяхова супрацьстаяць усім выклікам часу. Якія б спакусы і выпрабаванні ні спасцігалі нас у гэтым жыцці, словы Госпада: «*Я з вамі ва ўсе дні да сканчэння веку*» (Мт. 28, 20) усяляюць у нас надзею, што Ён не пакідае нас сёння і не пакіне ў будучы час.

Закон любові, завешчаны нам Збаўцам, ляжыць у аснове сапраўднага «*адзінства духу*» (Эф. 4, 3). Гэты закон – аснова грамадскага жыцця і салідарнасці, супольнай стваральнай працы і супрацоўніцтва на славу Божую і на радасць тым, хто перажывае розныя беды і няшчасці, хто цярпіць нягоды і мае патрэбу ў нашай дапамозе і падтрымцы. Але сапраўднае яднанне народа не можа абмяжоўвацца толькі часам выпрабаванняў, яно павінна стаць неад'емнай часткай нашай хрысціянскай самасвядомасці і сапраўднага хрысціянскага жыцця.

Праасвяшчэнныя архіпастыры, дарагія айцы, браты і сёстры! Мінулы год быў няпросты для многіх з нас, але, міласцю Божай, ён прынёс нам і нямала духоўнай радасці. Ён быў адзначаны шматлікімі важнымі падзеямі ў жыцці нашай Царквы. У мінулым годзе ва ўсіх епархіях архіерэі з клірам, браціяй і паствай займаліся вырашэннем надзённых пытанняў царкоўнага жыцця: добраўпарадкаваннем епархіяльнай і прыходскай дзейнасці, стварэннем якасна новых прыходаў, якія закліканы стаць сапраўднымі праваслаўнымі абшчынамі, здольнымі да актыўнага ўдзелу ў царкоўнай місіі, з уключэннем у іх самай актыўнай сілы грамадства – моладзі; шмат увагі надавалася развіццю сацыяльных і асветніцкіх праектаў Праваслаўнай Царквы.

У 2016 годзе Беларуская Праваслаўная Царква і Дзяржава працягнулі супольную працу ў галіне аховы і захавання гісторыка-культурнай спадчыны. Асаблівая ўвага надаецца захаванню традыцыйных каштоўнасцяў беларускага народа, духоўна-маральнаму выхаванню падрастаючага пакалення і прафілактыцы негатыўных з'яў і іх наступстваў у грамадстве. У аснову культуры і дзяржаўнасці Беларусі закладзены хрысціянскія каштоўнасці, якія з'яўляюцца самым верным арыенцірам не толькі ў жыцці хрысціяніна, але і асобнага чалавека. Дзяржава сёння падтрымлівае Царкву ў яе патрыятычных ініцыятывах і пропаведзі набожнага ладу жыцця.

Святая Праваслаўная Царква заклікае кожнага з нас старанна працаваць над ачышчэннем і праабражэннем сваёй душы, бо духоўная перамена самога сябе – залог і аснова для праабражэння ўсяго народа нашай Бацькаўшчыны.

Дарагія і ўзлюбленыя ў Госпадзе праасвяшчэнныя архіпастыры і пастыры, манахі і манахіні, браты і сёстры! Ад усяго сэрца з любоўю ў Хрысце зноў і зноў віншую ўсіх вас з вялікім святам Раства Хрыстовага і з Новым годам міласэрнасці Божай! Малітоўна жадаю вам добрага здароўя, міру, дабрабыту і невычэрпнай благадатнай дапамогі Божай у вашых подзвігах і працы на славу Святой Царквы Хрыстовай, на карысць роднай Бацькаўшчыны і на карысць усіх нашых бліжніх!

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## За чый кошт спартыўнае шоу?

*Карэспандэнт "Народнай Волі" паспрабаваў падлічыць грашовыя выдаткі на арганізацыю чарговага аматарскага Каляднага хакейнага турніру на прыз прэзідэнта Беларусі.*

Мінск сабраў ветэранаў хакея ў 13-ы раз. Пры гэтым у дзевяці турнірах з дванаццаці першае месца займала беларуская каманда, за якую гуляе **Аляксандр Лукашэнка**. Дарэчы, гэтым разам у склад аматарскай зборнай Беларусі заяўлена пяць прафесіянальных хакеістаў, якія гуляюць у клубах экстралігі. Адзін з іх – канадзец **Даніэл Корса** – два гады таму атрымаў беларускае грамадзянства, а зараз выступае за мінскае "Юнацтва" і займае другое месца ў спісе бамбардзіраў чэмпіянату краіны.

Турнір праходзіць з 4 па 7 студзеня, у ім бяруць удзел каманды **Беларусі, Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, Швейцарыі, Балканаў, Расіі, Германіі, Фінляндыі і Славакіі.**

*"Мяркуючы па навінах на БТ, галоўная падзея 4 студзеня – гэта прэзідэнцкі хакейны турнір і матч беларусаў з арабамі, у якім галоўны хакеіст краіны закінуў шайбу і зрабіў тры перадачы*, – выказаў у сацыяльных сетках сваё стаўленне да мерапрыемства лідар АГП **Анатоль Лябедзька**. – *Так і хочацца запытацца: а за чый кошт банкет? Зрэшты, адказ відавочны. За кошт даяркі з Докшыцкага раёна, якая атрымлівае на рукі заробак 62 рублі, за кошт індывідуальнага прадпрымальніка, які прадае ў дзень адну адзінку тавару, за кошт "дармаеда", які атрымаў "ліст шчасця", за кошт урача "хуткай", якому рэкамендавана больш за адзін укол не траціць на пацыента..."*



mst.by

Метафарычнасць Лябедзькі вядома, але ж узнікае пытанне: хто на самай справе аплачвае выдаткі на гэтае спартыўнае шоу?

Паводле інфармацыі, якую мае "Народная Воля", каб правесці хакейны матч, скажам, на "Мінск-Арэне", клубу трэба заплаціць каля 300 мільёнаў недэнамінаваных рублёў (каля 15 тысяч долараў).

***(Заканчэнне на 2-й стар.)***

ЧУЛІ?

## «Белсат» захаваецца?

«Думаю, што вы, як і я, будзеце задаволены навіной, якую я хачу паведаміць, – *напісала ўчора ў "Фэйсбуку" дырэктар тэлеканала «Белсат» Агнешка Рамашэўска-Гузы*. – Пані прэм'ер запэўніла мяне і прасіла перадаць, што існаванню «Белсата» нічога не пагражае. Бліжэйшы месяц мы прысвяцім узгадненню з МЗС далейшых прынцыпаў супрацоўніцтва».

ВАКОЛ ЗДАРЭННЯ

## У рэанімацыі – пад вартай

*Хлопец, у якога стралялі ў навагоднюю ноч, па-ранейшаму знаходзіцца ў шпіталі.*

Нагадаем: у Мінску ў ноч з 31 снежня на 1 студзеня адбыўся інцыдэнт, у выніку якога міліцыянер два разы стрэліў у жыхара сталіцы. Згодна з версіяй міліцыі, 28-гадовы мужчына неадэкватна адрэагаваў на просьбу не перашкаджаць суседзям і накінуўся на праваахоўніка, спрабуючы адабраць пісталет. У выніку Андрэй Г. атрымаў два кулявыя раненні. Паведамляецца, што міліцыянер у выніку сутычкі атрымаў траўму галавы і таксама знаходзіцца на лячэнні.

*"Пасля аперацыі сын па-ранейшаму знаходзіцца ў рэанімацыі,* – распавяла "Народнай Волі" Галіна Іванаўна – маці Андрэя. – *Стан – стабільна цяжкі, да яго нікога з блізкіх не пускаюць. Што датычыцца самой справы, то мне пакуль нічога не паведамлялі, як ідзе следства. Мы знайшлі адваката, які зараз гэтым і займаецца"*.

Тым часам, як паведаміў euroradio.fm афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта **Сяргей Кабаковіч,** падазронага, згодна з санкцыяй пракурора, у рэанімацыі ўзялі пад варту. Паводле папярэдніх звестак, у крыві Андрэя Г. пасля ранення было выяўлена каля 2 праміле алкаголю.

ЗА ПРАХАДНОЙ!

## Наступным горадам будзе Масква

Учора ў Мінску можна было бачыць… электробус. Пакуль яшчэ, праўда, не на маршруце, гэта была чарговая тэставая паездка першага беларускага электробуса, выпуск якіх наладжаны на заводзе «Белкамунмаш».

– Паказалі навінку некаторым членам урада, пакаталі іх па горадзе, – з задавальненнем адзначыў першы намеснік гендырэктара прадпрыемства **Дзмітрый Паркоў**. – Усім спадабалася. Гэта ж транспарт будучыні!

**– Якія яго перавагі перад звычайнымі аўтобусамі, тралейбусамі?**

– Перш за ўсё гэта экалогія і эканомія. Выдаткі на кіламетр прабегу ў электробуса значна ніжэйшыя, чым у тралейбуса ці аўтобуса. Акрамя таго, не патрабуюцца дадатковыя фінансавыя ўліванні – не трэба ставіць слупы, цягнуць правады. Электробус зараджаецца на канцавым прыпынку і можа спакойна праехаць 15–16 кіламетраў.

**– Калі навінка стане звычайным гарадскім транспартам?**

– Думаю, што ў лютым-сакавіку.



onliner.by

Кантракт з Мінскам ужо заключаны, горад бярэ 20 машын. Але перад гэтым трэба прайсці сертыфікацыю – частку выпрабаванняў праводзім у Беларусі, частку – у Падмаскоўі, таму што ў нашай краіне няма такіх лабараторый.

Мінск будзе першым горадам на постсавецкай прасторы, па вуліцах якога паедуць белкамунмашаўскія электробусы.

**– А які горад будзе другім?**

– Думаю, што Масква. У студзені ў расійскую сталіцу на Садовае Кальцо адпраўляем на доследную эксплуатацыю першы электробус. Паводле вынікаў гэтай эксплуатацыі і будуць далейшыя дамоўленасці...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Кремль вблизи «Дроздов»?

Прокатилось: редактору сайта «Хартия» Наталье Радиной, редакции газеты «Наша Ніва», а также бывшему начальнику Белорусского телевидения Александру Зимовскому прислали приглашения принять участие в программе Владимира Соловьева – того самого, который совсем недавно приезжал в Минск и озвучил анонимную записку «Заберите нас, как Крым!». «Нашай Ніве» – не самим, впрочем, журналистам участвовать в передаче, а помочь с координатами Владимира Орлова и Нины Стужинской, уважаемых, как сказано в послании, белорусских историков. Цель программы – порассуждать на тему, кто заменит Александра Лукашенко.

Более года, кажется, назад такие письма тоже рассылались. В том числе и мне. И, как и в прошлый раз, сейчас выяснилось: никакой продюсер никакой телепрограммы Владимира Соловьева подобных посланий не рассылал. Значит, выдумка. Или, как говорит сегодняшняя молодежь, фейк.

Цель фейка, на мой взгляд, понятна: запугать Александра Лукашенко (поиграть у него на нервах) и добиться от него уступок. Но тут скрывается явное противоречие. Запугать было бы возможно, если бы подобная программа действительно готовилась. А она, как уверяет сам «кремлевский соловей», не готовится. И готовиться не может. Как вряд ли будет Россия сегодня повторять применительно к Беларуси и «крымский сценарий».

На внешнеполитической арене для Кремля все складывается как нельзя лучше. Уже очевидно, что новоизбранный хозяин Белого дома Дональд Трамп подвергнет ревизии курс США по отношению к России. То есть начнет как минимум переговоры о смягчении санкций. Об этом свидетельствует и назначение госсекретарем бизнесмена, вполне лояльного к Москве: будет идти торг, а вовсе не противостояние.

То же самое и с чисто европейским раскладом. Впереди парламентские выборы в Германии и президентские – во Франции. Уже известно, что уходит со своего поста Франсуа Олланд. Шансы у приятельницы Путина Мари Ле Пен достаточно велики, да и ее респектабельный оппонент Франсуа Фийон вовсе не горит желанием и дальше конфронтировать с Кремлем. Наконец «директор Европы» Ангела Меркель пока не знает, как будет выглядеть новая конфигурация правящей коалиции в Германии, но если социал-демократы получат несколько больше мест в бундестаге, то и их мнение будет более весомым. А пока их лидер вице-канцлер Зигмар Габриэль последовательно отстаивает идею примирения с Москвой – во имя процветания германской экономики.

Да и нефтяные цены медленно поползли вверх. Очень медленно. Медленней, чем хотелось бы Кремлю. Но, как говорится, тут уже ничего не поделаешь.

В такой ситуации для Путина и его окружения, как мне кажется, главное – набраться терпения и выждать. Не пороть горячку. И не делать лишних, зачастую неоправданных шагов. Нужно потихоньку выбираться из донбасского капкана, куда Кремль не то что лапой, а и мордой медвежьей сунулся. Время пока работает на Путина – если судить по той ситуации, которая складывается вокруг.

Что это значит?

Что Лукашенко не будут провоцировать на публичные скандалы. То есть Путин все запоминает и зарубочки где-то на кресле из дачного гарнитура ногтем ставит. Вроде того: не подписал Таможенный кодекс ЕвразЭС? Ну-ну… Но обсуждать скорого преемника Лукашенко на телеэкране – значит еще более обострять отношения в условиях, когда реально надавить на «дорогого союзника» Кремль не может, не рискуя вновь превратить благоприятную для себя внешнеполитическую конъюнктуру в неблагоприятную.

В этой истории у меня главный вопрос другой. Вот уже второй раз рассылаются «письма счастья» белорусским журналистам. Их авторы понимают, что реакция будет публичной. Мало того, что понимают, – на это явно и рассчитывают. А поскольку Лукашенко вовсе не дурак и разницу между реальной московской угрозой и фейком видит, то непонятно, почему авторов этих писем белорусские спецслужбы не ищут. Ведь и Эдуарда Пальчиса, и авторов агентства «РЕГНУМ» спецслужбы – в первом случае российские, во втором отечественные – вычислили.

Потому что письма не представляют опасности? Наверное, да. Но есть еще одна причина. Потому, скорее всего, что они знают, откуда эти письма отправлены. И для некоторых из ответственных сотрудников наших «органов» разоблачение реальных авторов будет сродни стриптизу: придется тыкать пальцами в самих себя. Потому что не Кремль пытается таким глупым образом запугивать Лукашенко. А наши, доморощенные деятели пытаются повлиять на расклад в ближайшем окружении «батьки»: мол, смотри – продолжишь нынешний курс, так «они» тебя…

Интересно, испугали его или нет?

